IDW

# TEENAGE MUTANT NINJA TURTLES

#19 • CVR A

EASTMAN
WALTZ
BATES
PATTISON




ПАДЛЕТКІ МУТАНТЫ
ЧАРАПАШКІ НІНЗЯ #19
ПЕРАКЛАД І АФАРМЛЕННЕ:
COMICSBY

IDW

#19 • CVR B

# TEENAGE MUTANT NINJA TURTLES

EASTMAN
WALTZ
BATES
PATTISON



ПЛАНЕТА НЕЙТРЫНА.
КАМАНДНЫ ЦЭНТАР БАРАЦЬБІТОЎ СУПРАЦІВУ НЕЙТРЫНА.
ГЭТА АПОШНЯЕ ПАПЯРЭДЖАННЕ ВАМ, НЕЙТРЫНАЎСКІЯ ЁЛУПНІ. АЛЬБО ВЫ РАСКРЫЕЦЕ МНЕ МЕСЦАЗНАХОДЖАННЕ ФУДЖЫТОЙДА ЗАЎТРА, У ГЭТЫ Ж ЧАС, АЛЬБО ВАШЫЯ КАХАНЫЯ КАРОЛЬ ДЫ КАРАЛЕВА ХУТКА ПАМРУЦЬ...
...АДРАЗУ ПАСЛЯ РЭШТКАЎ ГЭТАГА ЖАЛАСНАГА СВЕТУ.
SKKSSSS
НЕ.
ХАЛЕРА НА ТВАЮ ГАЛАВУ, КРЭНГ...


БУДЗЬ ПРАКЛЯТЫ!?!
CRRSH


СПЫНІСЯ, ЗАК.
СПЫНІЦЦА? **СПЫНІЦЦА?!**
УСЁ ЗАДАННЕ ПА ВЯРТАННЮ ФУДЖЫТОЙДА БЫЛО **ДАРЭМНЫМ!** КРЭНГ ПРЫЦІСНУЎ НАС ДА СЦЕНЦЫ, І МЫ НАВАТ ЗАРАЗ НІЧОГА НЕ ЗМОЖАМ З ГЭТЫМ ЗРАБІЦЬ!
КРЭНГА І ЯГО МУДАЗВОНАЎ - МЫ ІХ **УСІХ** РАСПЛЮШЧЫМ У ПЫЛ!


НІХТО З НАС НЕ РАДЫ ТАКОМУ СТАНОВІШЧУ, АЛЕ ГЭТА НЕ АПРАЎДАННЕ ДЛЯ СТРАТЫ САМАВАЛОДАННЯ.
Я СКАЗАЎ: СПЫНІСЯ, САЛДАТ!
АЛЕ...
НІЯКІХ «АЛЕ»! ТЫ КАЖАШ ЯК ТОЙ ВЫБЛЯДАК-УТРОМ, І ПАВІНЕН ЗАМОЎКНУЦЬ. **ЗАРАЗ ЖА!**
ТЫ - КВАЛІФІКАВАНЫ САЛДАТ НЕЙТРЫНА І Я ЧАКАЮ, ШТО ТЫ ЗАЎСЁДЫ БУДЗЕШ РАБІЦЬ ЯК ТРЭБА!


Т-ТАК, СЭР. ПРАБАЧЦЕ.
НЕ ТРЭБА ВЫБАЧАЦЦА - Я РАЗУМЕЮ ТВАЁ РАСТРОЙСТВЫ. АЛЕ НАМ ТРЭБА ДЕЙНІЧАЦЬ ЗЛАДЖАНА.




...ЧАС ПРЫДУМАЦЬ НОВЫ ПЛАН.
І, ЗДАЕЦЦА, Я ВЕДАЮ, ЯКІМ ЁН ПАВІНЕН БЫЦЬ, КАМАНДЗІР ДАСК.
Я ВЯРНУСЯ ДА КРЭНГА.


ВЕРНЕЦЕСЯ? НЕ ВЕРУ, ШТО ВЫ СУР'ЁЗНА.
АЛЕ ГЭТА ТАК. КАЛІСЬЦІ Я ЎЖО Б-БЫЎ ПРЫЧЫНАЙ НАЙВЯЛІКАГА МНОСТВА С-СМЯРЦЕЙ. І КАЛІ МАЁ РАШЭННЕ Р-РАТУЕ ЖЫЦЦІ КАРАЛЯ І КАРАЛЕВЫ, Я АБАВЯЗАНЫ ТАК ЗРАБІЦЬ.
НЕ, ПРАФЕСАР, ВЫ ПАМЫЛЯЕЦЕСЯ...


...РАБІЦЬ ТАК ВАМ ДАКЛАДНА НЕЛЬГА.
Я ХВАЛЮЮСЯ ЗА ЖЫЦЦІ СВАІХ БАЦЬКОЎ, АЛЕ ДАЗВОЛЬЦЬ ВАМ ЗДАЦЦА – ГЭТА БЫЛО Б АПОШНІМ, ЧАГО ХАЦЕЛІ Б КАРОЛЬ І КАРАЛЕВА.
ВЫ БЫЛІ ПРЫВЕДЗЕНЫ СЮДЫ, КАБ ДАПАМАГЦІ НАМ ПЕРАМАГЦІ...


...І ЗАРАЗ МЫ ЧАКАЕМ АД ВАС МЕНАВІТА ГЭТАГА.
Я... ЭЭ...
...СЛУХАЮСЯ, ВАШАЕ ВЫСОКАСЦЬ.


КАМАНДЗІР ДАСК, ВЫ СКАЗАЛІ, ШТО НАВАЯ ЗБРОЯ БЫЛА ПАКРЫЎДЖАНА, АЛЕ Ж НЕ РАЗБУРАНА ЦАЛКАМ?
СЛУХАЮСЯ, ПРЫНЦЭСА..
ТАДЫ ДАВАЙЦЕ ХУТЧЭЙ АДВЯДЗЕМ ПРАФЕСАРА Ў ЛАБАРАТОРЫЮ. КАЛІ ПАШАНЦУЕ, ТАДЫ ЁН ЗМОЖА АДРАМАНТАВАЦЬ ПРЫЛАДУ І, ТЫМ САМЫМ, ПРАДАСТАВІЦЬ НАМ ТЭХНАЛОГІЮ, ЯКАЯ ЗДОЛЬНАЯ СПЫНІЦЬ КРЭНГА..


ТЫ... І ТЫ ТАКСАМА! АДВЯДЗІЦЕ ПРАФЕСАРА ХАНІКАТА Ў ЛАБАРАТОРЫЮ. І ЎПЭЎНІЦЕСЯ, ШТО ЁН ПАТРАПІЦЬ ТУДЫ ХУТКА І БЕЗ СТРАТ. ЗРАЗУМЕЛА?
ТАК, СЭР!


ГЭЙ! ХВІЛІНАЧКУ! А ЯК ЖА МЫ?
КАЛІ ГЭТЫ КРЭНГ САПРАЎДЫ ЗБІРАЕЦЦА ЗРАБІЦЬ З НАШЫЙ ЗЯМЛІ ДРУГІ ЎТРАМІНОН, МЫ **НЕ МОЖАМ** ПРОСТА СТАЯЦЬ І БЯЗДЗЕЙНІЧАЦЬ. Я ПАВІНЕН ПАЙСЦІ З ЧЭ... ЭЭЭ, ПРАФЕСАРАМ ХАНІКАТАМ, КАБ ДАВЕДАЦЦА ПАБОЛЕЙ.
Я РАЗУМЕЮ ТВАЮ ЗАКЛАПОЧАННАСЦЬ РОДНАЙ ПЛАНЕТАЙ, ЭЭ...
ДАНАТЭЛА.


ДЗЯКУЙ... ДАНАТЭЛА. ЯК Я ЎЖО КАЗАЛА: Я РАЗУМЕЮ ТВАЕ ТУРБОТЫ, АЛЕ Ў НАС ЁСЦЬ БОЛЬШ НАДЗЁННАЯ ПРАБЛЕМА, ЯКАЯ ТЫЧЫЦЦА НЕЙТРЫНА Ў ПЕРШУЮ ЧАРГУ.
ПРЫ ЎСЁЙ МАЁЙ ПАВАЗЕ, ПРЫНЦЭСА, ПАГРОЗА РАЗБУРЭННЯ ЗЯМЛІ **БЕЗУМОЎНА АЗНАЧАЕЦЦА** ЯК НАДЗЁННАЯ ПРАБЛЕМА, НА НАШ ПОГЛЯД.
ЯЕ ВЫСАКАРОДНАСЦЬ СКАЗАЛА: НЕ ЗАРАЗ.


ПРАБАЧ, АЛЕ ГЭТА **НЕ** ПРОСЬБА.
БОЛЬШ **ПАВАГІ** ДА ПРЫН...
**КАМАНДЗІР ДАСК!**


ЯНЫ МАЮЦЬ РАЦЫЮ... ЯНЫ РАТАВАЛІ МНЕ ЖЫЦЦЁ, І ЎСЕ МЫ Ў АБАВЯЗКУ ПЕРАД ІМІ. ДАНАТЭЛА МОЖА ПАЙСЦІ З ПРАФЕСАРАМ У ЛАБАРАТОРЫЮ.
Я Ж КАЗАЎ, ШТО РАЗУМОВА ЗРАБІЎ, РАТАВАЎШЫ ЯЕ, РАФ.
НАВАТ СЛЯПЫ ТРУС ЧАСАМ ЗНАХОДЗІЦЬ МОРКВУ, БРАТ.
А?


Ц-ЦЯБЕ КЛІЧУЦЬ ДАНАТЭЛА?
АГА.
ТАК МІЛА, ШТО ТЫ ПАКІНУЎ ІМЯ, ЯКІМ ЯНА ЦЯБЕ НАЗВАЛА.


ВАША ВЫСАКАРОДНАСЦЬ, ЦЯПЕР, КАЛІ ФУДЖЫТОЙД ТАМ, ДЗЕ ЯМУ НАЛЕЖЫЦЬ БЫЦЬ, ПРЫЙШОЎ ЧАС МНЕ І МАІМ САЛДАТАМ ЗАНЯЦЦА НАШАЙ СПРАВАЙ.
МЫ НЕ МОЖАМ АДСІЖВАЦЦА, ПАКУЛЬ У ЛАПАХ КРЭНГА КАРОЛЬ І КАРАЛЕВА – МЫ АДПРАВІМСЯ ЗА ІМІ.

ВЫ ЧЫТАЕЦЕ МАЕ ДУМКІ, КАМАНДЗІР. ГЭТА ЎСЁ, ПРА ШТО ТОЛЬКІ Я МАРУ.

ГЭТА БУДЗЕ НЕЛЁГКА, КАМАНДЗІР... ЗАМАК З КРЭНГАМ АБХОПЛЕНЫ КОЛЬЦАМ АХОВЫ.
ТАК, САПРАЎДЫ, КАЛА. НАМ ТРЭБА НЕЙКАЯ ДЫВЕРСІЯ... ШТОСЬЦІ СУР'ЁЗНАЕ, КАБ АДЦЯГНУЦЬ УВАГУ АД КАМАНДЫ ПРАНІКНЕННЯ.
АЛЕ НАВАТ ТАК ПРАНІКНУЦЬ НЕЗАЎВАЖНЫМІ БУДЗЕ АМАЛЬ НЕМАГЧЫМА, БОС.
А МОЖА І НЕ.

ШТО ТЫ ТАМ ЗНОЎ МАРМОЧЫШ, ЭЭ...
ЛЕАНАРДА.
СЛУХАЙЦЕ, Я КАНЕШНЕ, НЕ СПЕЦЫЯЛІСТ У ТЫМ, ШТО ТУТ АДБЫВАЕЦЦА, УСЯ ГЭТА НАВУКА І ГЭТАК ДАЛЕЙ – ГЭТА ТЫЧЫЦЦА ДОНІ. АЛЕ Я ЗАЎВАЖЫЎ, ШТО ГЭТЫ КРЭНГ ПАГРАЖАЕ ЗЯМЛІ, ТАМУ НАМ ТРЭБА ЯГО СПЫНІЦЬ.

І ЯК ЖА ТЫ ПРАПАНУЕШ ГЭТА ЗРАБІЦЬ?
ПРОСТА. ВЫ ЛАДЗІЦЕ ДЫВЕРСІЮ, А МЫ ДАСТАВІМ ВАС УНУТР ЗАМКА НЕЗАЎВАЖНЫМІ.
ЧАМУ Я ПАВІНЕН ВЕРЫЦЬ, ШТО ВАШАЯ БАНДА ЗМОЖА ГЭТА ЎВІЛЬНУЦЬ?

ТАМУ, ШТО ТАЕМНЫЯ ПРАНІКНЕННІ – ПРАЦА НЕ ДЛЯ АРМІІ...


«…А ДЛЯ НІНЗЯ».
ДЗЕСЬЦІ Ў НЕБЕ НАД ВОСТРАВАМ БЁРНАЎ.
«НУ І ДЗЕ ТАМ ГЭТЫ ВОСТРАЎ БЁРНАЎ?»


У ЦЭНТРЫ АТЛАНТЫЧНАГА АКІЯНА, МІЖ ПАЎНОЧНАЙ АМЕРЫКАЙ І ЗАХОДНЯЙ АФРЫКАЙ. УСПАМІНАЙ КЕЙСІ... У МІНУЛЫМ МЕСЯЦЫ ГЭТА БЫЛО НА ТЭСЦЕ ПА ГЕАГРАФІІ, ДА ЯКОГА Я ДАПАМАГАЛА ЦЯБЕ РЫХТАВАЦЦА.
ЭМ, ПАМЯТАЮ. Я МОГ У ІМ ПАМЫЛІЦЦА.
ЯК І Ў БОЛЬШАСЦІ АСТАТНІХ.
ТАК ЦІ ЙНАЧАЙ, ГЭТА МЕСЦА АД НАС ЗАНАДТА ДАЛЁКА, НЕ ДАЦЯГНУЦЦА. АЛЕ КАЛІ ЧАРАПАХІ НЕЙКІМ ЧЫНАМ ТЭЛЕПАРТЫРАВАЛІСЯ, ТАДЫ, МАГЧЫМА, ЯНЫ ТАМ.
Я ПЫТАЮСЯ ДАВЕДАЦЦА, НАВОШТА ГЭТА ДРОБНАЯ ПЛЯМА Ў НЕЙКАЙ ГЛУХМЕНІ, ЯКУЮ КЛІЧУЦЬ ВОСТРАВАМ, СПАТРЭБІЛАСЯ СТОКГЕН І ЧЭТУ.


МАГЧЫМА, ГЕНЕРАЛ КРЭНГ, ПРА ЯКОГА ВЫ ЎЗГАДВАЛІ, КЛЮЧ ДА ГЭТАЙ ІНФАРМАЦЫІ, МІС А'НІЛ.
Я ПАДУМАЛА ПРА ТОЕ Ж, МАЙСТАР СПЛІНТЭР. ТАМУ ЗРАБІЛА НЕВЯЛІКАЕ РАСЛЕДВАННЕ.
ОПА, ВОСЬ ГЭТА ВОЛАТ.


«ЗГОДНА ГЭТАМУ САЙТУ, ЁН ДЗЕСЯЦІГОДДЗЯМІ ТРЫМАЎ ВОСТРАЎ ПАД ЖОРСТКІМ КАНТРОЛЕМ».
«ЁН ЗАХАПІЎ УЛАДУ НА ВОСТРАВЕ ШЛЯХАМ КРАВАЗЛІТНАГА ПЕРАВАРОТУ, ЯКІ ВЫСЕК АМАЛЬ УСЁ МЯСЦОВАЕ НАСЕЛЬНІЦТВА».


Я НІКОЛІ НЕ ЧУЎ ПРА ГЭТА НІ З НАВІНАЎ, НІ Ў ШКОЛЕ. НААГУЛ.
МАГЧЫМА З-ЗА ТАГО, ШТО НА ВОСТРАВЕ БЁРНАЎ АДСУТНІЧАЛІ КАРЫСНЫЯ ПРЫРОДНЫЯ РЭСУРСЫ. ПРА ЯКІЯ Б КАШТАВАЛА КАЗАЦЬ, ТАМУ НЕ БЫЛО ЎМЯШАННЕ НІ СУСВЕТНЫХ... НІ ІНШЫХ ІНТАРЭСАЎ.
НАРОД РЭДКА СХІЛЯЮЦЬ ДА РУХУ АДНЫМ ТОЛЬКІ СПАЧУВАННЕМ. ЗАНАДТА ЧАСТА ВЯДУЧАЙ СІЛАЙ АКАЗВАЮЦЦА АСАБІСТЫЯ МАТЫВЫ.


ШТО ВЫКЛІКАЕ ПЫТАННЕ, ЯКОГА ЛЫСАГА ТАМ РОБІЦЬ БАКСТЭР СТОКМАН...

«...І ЧЫМ, НА САМОЙ СПРАВЕ, **ЗАЙМАЕЦЦА** ГЭТЫ КРЭНГ?»
ХОЦЬ У ЦЯБЕ І ПЕРАВАГА, КРЭНГ, АЛЕ МАЕ НАЙТРЫНА НІКОЛІ НЕ ЗДАДУЦЦА ПАД ТВАЁЙ ТЫРАНІЯЙ. ТЫ ВАР'ЯЦКІ, КАЛІ ЛІЧЫШ, ШТО МЫ ЗРЫНУТЫ.
СКАЗАЎ ТАК ЗВАНЫ КАРОЛЬ, ЯКІ ЗВЯЗАНЫ СТАІЦЬ НА КАЛЕНАХ.
МЫ АБОДВА ВЕДАЕМ, ШТО ТВАЕ ПАЎСТАНЦЫ ЗНІШЧАЛЬНА СЛАБЫЯ, ЯК І ТЫ, ЗЭНТЭР. НЕСУМНЕННА, ЯНЫ **ЗГАДЗЯЦЦА** НА МАЕ ПАТРАБАВАННІ...
...ЛЮБЫЯ, АБЫ РАТАВАЦЬ ЖАЛАСНАЕ ЖЫЦЦЁ ІХ КАШТОЎНЫХ КАРАЛЕЙ.
А КАЛІ Я СХАПЛЮ ФУДЖЫТОІДА, ТАДЫ СКОНЧУ РАБІЦЬ ТЭХНАДРОМ І ЗЯМЛЯ ПЕРАТВАРЫЦЦА Ў НОВЫ ЎТРАМІНОН, А ЎТРОМЫ ВЫКАНАЮЦЬ СВАЁ ПРЫЗНАЧЭННЕ, КАЛІ СТАНУЦЬ АБСАЛЮТНЫМІ ЎЛАДАРАМІ СУСВЕТУ.
НА САМОЙ СПРАВЕ, МЫ НЕ ТАКІЯ ЎЖО РОЗНЫЯ, ТЫ І Я. МЫ АБОДВА РАЗУМЕЕМ, ЯК ГЭТА АДКАЗВАЦЬ ЗА ЛЁСЫ СВАІХ ЛЮДЗЕЙ.
РАБІЦЬ **УСЁ**, ШТО Ў НАШЫХ СІЛАХ, КАБ РАТАВАЦЬ ІХ.
АЛЕ Ў ТОЙ ЧАС, ЯК Я ВАЛОДАЮ ЖАДАННЕМ, МОЦАМ, НЕАБХОДНЫМІ ДЛЯ ВЫЖЫВАННЯ МАЙГО НАРОДУ, ТЫ — НЕ. І ПЕРШ ЧЫМ УСЁ СКОНЧЫЦЦА, Я РАСПЛЮШЧУ ТВАЮ РАСУ СВАІМІ БОТАМІ, ЯК ДРОБНЫХ ЖУКОЎ, ЯКІМІ ВЫ І З'ЯЎЛЯЕЦЕСЯ.
ПЛАНЕТА НЕЙТРЫНА ДАЖЫВАЕ АПОШНІЯ ДЗЯНЁЧКІ — ЗВЯЗАНЫ І БЕЗДАПАМОЖНЫ ТЫ БУДЗЕШ НАЗІРАЦЬ ЗА ЯЕ ЗГУБАЙ.
ТАБЕ НЕ ПЕРАМАГЧЫ, КРЭНГ.
ТЫ НЕ ПРАВЫ, ЗЭНТЭР. БО Ў РЭШЦЕ РЭШТ...


«...ХТО ЗМО-ЖА МЯНЕ СПЫНІЦЬ?»
ВОСТРАЎ БЁРНАЎ.
ШТО ЧУТНА З НЕЙТРЫНА?
ТОЛЬКІ ТОЕ, ШТО МЫ НАДЗЕРЛІ ЧЫЙСЬЦІ ВАЖНЫ АЗАДАК. ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ, ГЭТА СКОНЧЫЦЦА ПРАЗ ПАРУ ДЗЁН.


І ГЭТА ДОБРА... СПАДЗЯЮСЯ. Я ЗУСІМ НЕ ХАЧУ, КАБ КРЭНГ ВЯРНУЎСЯ НА ВОСТРАЎ. У ГЭТАГА ХЛОПЦА ЁСЦЬ РЭАЛЬ-НЫЯ ПРАБЛЕМЫ.
ГЭЙ, ПАКУЛЬ ЁН ВЫПІСВАЕ НАМ ЧЭКІ, КАГО ГЭТА ХВА-ЛЮЕ? ТУТ ХАЦЯ Б ДАРЭМШ-ЧЫНА, ПАКУЛЬ НЯМА СЯР-ЖАНТА ГРАНІТАРА, ЯКІ РАВЕ НА НАС УВЕСЬ ДЗЕНЬ, Я ПРАВЫ?


ГРК!
SNIP
KRAK
УФФ!


РЭЧЫВА ПРЫШЭЛЬЦАЎ. АДВЯДЗІ МЯНЕ ДА ЯГО.
ЭЭ... Д-ДОБРА. ЯК ПАЖАДАЕЦЕ.
МАЎЧЫ.


...І ВЯДЗІ.

ПЛАНЕТА НЕЙТРЫНА.

БОЖА МОЙ... ФЕЛІКС?

А, ХАНІКАТ, ПРЫЕМНА ЗНОЎ ЦЯБЕ БАЧЫЦЬ... НЯХАЙ НАВАТ У ВЫГЛЯДЗЕ РОБАТА.

Ц-ЦЯБЕ ТАКСАМА. Я Б-БАЯЎСЯ, ШТО ТЫ ЗАГІНУЎ ПАСЛЯ НАШАЙ АПОШНЯЙ СУСТРЭЧЫ*.

НА ШЧАСЦЕ, НЕ... Я ВЫБРАЎСЯ АДТУЛЬ, СТРАЦІЎШЫ РУКУ, АЛЕ ДЗЯКУЮЧЫ ТВАІМ УРОКАМ ПА РОБАТАТЭХНІКЕ, ЗМОГ ГЭТА... КАМПЕНСІРАВАЦЬ.

*ГЛ. ЧАРАПАШКІ НІНЗЯ: ФУДЖЫТОІД

А ГЭТА ХТО?

Г-ГЭТА ДАНАТЭЛА З ПЛАНЕТЫ ЗЯМЛЯ - ЁН ВЫКЛІКАЎСЯ ДАПАМАГЧЫ НАМ У БАРАЦЬБЕ З КРЭНГАМ.

РАБЯТЫ, ГЭТА МЕСЦА... УСЯ ГЭТА ТЭХНІКА... **УЗРУШАЮЧА!**

НЕ НАСТОЛЬКІ, ЯК БЫЛО ДА НАПАДУ. ХВОСТ РАКЕТЫ ВЕЛЬМІ МОЦНА АБГАРЭЎ. ДА ШЧАСЦЯ, МНЕ ЗДАЕЦЦА, ШТО ЯНА НЕ САПСАВАНА **КАНЧАТКОВА.**

**ХВОСТ** РАКЕТЫ?

ЭЛЕКТРОННА-ДЭСТРУКТЫЎНАЯ ПРЫЛАДА – НЕ СМЯРОТНАЯ ЗБРОЯ, ЯКУЮ Я РАСПРАЦАВАЎ ПЕРАД УЦЁКАМІ НА ЗЯМЛЮ.

ВЫКАРЫСТОЎВАЕ ВЫБЛІСКІ ВЫСОКАЧАШЧЫННЫХ МІКРАХВАЛЯЎ ДЛЯ ВЫВАДА З ЛАДУ ЭЛЕКТРОНІКІ СУПЕРНІКА, А СУТНАСЦІ, АДКЛЮЧАЕ ЎСЁ ЯГО ЎЗБРАЕННЕ, БЕЗ СПАДАРОЖНЫХ ПАШКОДЖАННЯЎ.










ТАК, ГЭТА ДАПАМОЖА НАМ ТРЫМАЦЬ СУВЯЦЬ ПАД ЧАС АПЕРАЦЫІ.
ГЭТА, КАНЕШНЕ, ВЫДАТНА, АЛЕ НАМ ТРЭБА ПА-МАКСІМУМУ ЎТРЫМЛІВАЦЬ ЦІШЫНЮ - НІШТО НЕ ЗРЫВАЕ ПРЫКРЫЦЦЁ ХУТЧЭЙ, ЧЫМ ЗАЛІШНЯЯ БАЛБЫТНЯ.
САПРАЎДЫ, ЦІШЫНЯ - НАШАЕ ДРУГОЕ ІМЯ.
КАЛІ Б, КАНЕШНЕ, У НАС БЫЛІ ДРУГІЯ АБО ТРЭЦІЯ ІМЁНЫ.


ДЫК УСЕ ЗРАЗУМЕЛІ ПЛАН?
ПРОЙДЗЕМСЯ ЯШЧЭ РАЗ. ПАКУЛЬ КАМАНДА ЗАКА І РАФА ПРАВОДЗІЦЬ ПАЎНАМАШТАБНЫ ДЫВЕРСІЙНЫ ГВАЛТ НА ПАЛАЦ, МЫ ЧАЦЬВЁРА ПРАНІКАЕМ ПРАЗ НЕАБАРОНЕНЫ ФЛАНГ. ПАТРАПІЎ УНУТР, ЗАБІРАЕМ КАРАЛЯ ДЫ КАРАЛЕВУ.


ВЫДАТНА. ЗДАЕЦЦА, БЫЦЦАМ ВЫ ГЭТА ЎЖО РАБІЛІ. БЫВАЛІ Ў ДОБРЫХ БАЯХ, ЦІ НЕ ТАК?
МОЖА ТОЛЬКІ НЕ ТАКОГА РАЗМАХУ, І НАЎРАД ЦІ, ЯНЫ НАОГУЛ БЫЛІ КАЛІ-НЕБУДЗЬ «ДОБРЫМІ»... А Ў АСТАТНІМ - ТАК, У НАС, БЕЗУМОЎНА, БЫЛІ СВАЕ БІТВЫ.
ШТО Ж, З РАДАСЦЮ ПЕРАЙМУ ВАШ ДОСВЕД У ГЭТАЙ БІТВЕ.


ДАРЭЧЫ АБ ЁЙ: УПЭЎНЕНЫ, ШТО НЕ ХАЦІЦЕ, КАБ МЫ ДАЛІ ВАМ ЗБРОЮ ЛЕПШ? З ВАШАЙ ВЫ ДАЛЁКА НЕ ЗАБЕРАЦЕСЯ.
КАЛА МАЕ РАЦЫЮ... ІСЦІ НА ПЕРАСТРЭЛКУ З НАЖАМІ І ПАЛКАМІ - ГЭТА НЕ ВЫГЛЯДАЕ ТАКТЫЧНА АБГРУНТАВАНА.
МЫ ЎСЁ ПАСПЕЕМ ЯЧШЭ ДА ТАГО, ЯК АДКРЫЮЦЬ АГОНЬ. МЫ Ж НІНЗЯ, ПАМЯТАЕЦЕ?
ГЭЙ, А ДЗЕ ПРЫНЦЭСА ТРЫБ?


Я ТУТ...


...І ГАРМАТУ Ў БОЙ Я ДАКЛАДНА **ВАЗЬМУ**.


ВАША... ВАША ВЫСАКАРОДНАСЦЬ, ВЫ Ж НЕ ДУМАЕЦЕ САПРАЎДЫ ПАЎДЗЕЛЬНІЧАЦЬ У ГЭТЫМ ЗАДАННІ?
КАМАНДЗІР, Я НЕ ДУМАЮ, А РАБЛЮ. Я ГАТОВА ВЫКАНАЦЬ СВАЮ РОЛЮ Ў РАТАВАННІ БАЦЬКОЎ.
АЛЕ ПРЫНЦЭСА... ВАШЫЯ БАЦЬКІ НІКОЛІ Б НЕ ДАЗВОЛІЛІ МНЕ ВЫВЕСЦІ ВАС НА ТАКІ НЕБЯСПЕЧНЫ ШЛЯХ. Я... Я ШКАДУЮ, АЛЕ **НЕ МАГУ** ГЭТАГА ДАЗВОЛІЦЬ.


ТАДЫ МНЕ НЕ МЕНШ ШКАДА, ШТО ВЫМУШАНА СКАРЫСТАЦЦА ВАШЫМ СТАТУТАМ, КАМАНДЗІР ДАСК.
Я – ВАША ПРЫНЦЭСА, А ВЫ – МОЙ САЛДАТ. Я БУДУ ЎДЗЕЛЬНІЧАЦЬ У БІТВЕ – І ПАЙШОЎ ДА ЧОРТА ВАШ ДАЗВОЛ. Я **АДМАЎЛЯЮСЯ** АДСІЖВАЦЦА, ПАКУЛЬ МАЕ БАЦЬКІ ПАКУТВАЮЦЬ.


АЛЕ... КАЛІ ВАС ПАРАНЯЦЬ... ЦІ, ЯШЧЭ ГОРШ, ЗАБ'ЮЦЬ... ВАШЫЯ БАЦЬКІ НЕ ПРАСЦЯЦЬ МЯНЕ.


ТАДЫ, МЯРКУЮ, ВЫ ЗАБЯСПЕЧЫЦЕ МНЕ ВЫЖЫВАННЕ, КАМАНДЗІР.
ГАЙ...
НЕ БОЙСЯ, БРАВЫ КАМАНДЗІР...


...УЖО Я-ТА АБ ЁЙ ПАКЛАПАЧУСЯ.


ГАЙ...


НУ, РАФАЭЛЬ, ТЫ ШКАДУЕШ, ШТО ІДЗЕШ У САМАЕ ПЕКЛА, ЗАМЕСТ ТАГО, КАБ АДПРАВІЦЦА РАЗАМ З БРАТАМІ?
НЕ-А. БІСЦІСЯ ЛОБ У ЛОБ – ДЛЯ МЯНЕ САМАЕ ЯНО.
ТАДЫ ДОБРА, БО ГЭТАЯ БІТВА ПАТРАБУЕ ПА-САПРАЎДНАМУ КРЭПКАГА ІЛБА.


ДАРЭЧЫ, АБ ГЭТЫМ: СПАДЗЯЮСЯ, ШТО МЫ РАЗЛІЧЫЛІСЯ ЗА ТОЙ МОЙ НОЖ У ТВАЮ СПІНУ НА ВАШАЙ ПЛАНЕЦЕ.
ДЫ НЕ ХВАЛЮЙСЯ, ЗАК. ЯК ТЫ І КАЗАЎ: НІЧОГА АСАБІСТАГА, ПРОСТА БІЗНЭС.


ГЭЙ, РАФ, Я БУДУ ЦЕЛААХОЎНІКАМ ПРЫНЦЭСЫ! ЗАСЛУЖАНА, ГА?!
АБ ЧЫМ ТЫ, МАЙК?
НЕ ПАТУРАЙ ЯМУ, РАФ, КАЛІ ЛАСКА.


ГЭЙ, І НЕ СПРАБУЙ ТАМ РАБІЦЬ З СЯБЕ ГЕРОЯ, ДОБРА?
НЕ ХВАЛЮЙСЯ, ЛЕА. Я БУДУ Ў ПАРАДКУ. ТЫМ БОЛЬШ, ГЭТА Ж МАЙКІ Ў НАС ТУТ СУПЕРГЕРОЙ, ТАК?
ХА! ТАК, ВІДАЦЬ, ТАК.


ПАБАЧЫМСЯ ПАСЛЯ ЗАКАНЧЭННЯ РАЗБОРКІ, СТАРЭЙШЫ БРАТ.
НЕ АШУКАЙ.


ДОНІ, ГЭТА ЛЕА... ЧУЕШ МЯНЕ?
ГУЧНА І ВЫРАЗНА, ЛЕА. ПРЫЁМ.
МЫ ВОСЬ-ВОСЬ ВЫХОДЗІМ. І КАЛІ ТЫ ПЕРАДУМАЎ НА КОНТ ТАГО, КАБ ЗАСТАЦЦА...
НЕ, ЛЕА...


...Я НАРЭШЦЕ ТАМ, ДЗЕ ПАВІНЕН БЫЦЬ. РАТУЙЦЕ КАРАЛЯ І КАРАЛЕВУ, А Я ПАКУЛЬ ПАГЛЯЖУ, ШТО ЗМАГУ ЗРАБІЦЬ ДЗЕЛЯ РАТАВАННЯ ЗЯМЛІ.


Я АБАВЯЗАНЫ АДДЗЯКАВАЦЬ ВАС АБОДВУХ ЯШЧЭ РАЗ. ПРАВІЛЬНА ПРАЦУЮЧЫ ГАЛАСАВЫ АПАРАТ – ГЭТА ВЯЛІКАЕ ПАЛЯГЧЭННЕ. Я БЫЦЦАМ НОВЕНЬКІ.
ЛЯГЧЭЙ ЛЁККАГА, ПРАФЕСАР.


УСЁ ДОБРА, ДАНАТЭЛА?
ТАК, ПРАФЕСАР, ПРОСТА ТУРБУЮСЯ ЗА БРАТОЎ. ПЛЮС, АБ ТЫМ, ШТО ЗЯМЛЮ ХОЧА РЭКАНСТРУІРАВАЦЬ І ЗАХАПІЦЬ РУЖОВЫ СКЛІЗКІ ПРЫШЭЛЕЦ.
БЛІН, УСЁ ТАК ХУТКА ПЕРАЙШЛО АД ДЗІЎНАГА ДА ШАЛЁНАГА, ШТО МНЕ ЦЯЖКА ГЭТА ЎЦЯМІЦЬ.


ШТО Ж, КАЛІ МЫ ЗМОЖАМ ПЕРААДОЛЕЦЬ КРЭНГА, ТАДЫ ПЫТАННЕ РЭКАНТРУКЦЫІ БУДЗЕ СПРЭЧНЫМ.
А КАЛІ НЕ?
У ГЭТЫМ ВЫПАДКУ. КАЛІ МАЕ ПАДЛІКІ ДАКЛАДНЫЯ, ТЭХНАДРОМ КРЭНГА БУДЗЕ ЗАВЕРШАНЫ, ПРЫКЛАДНА, ЗА ДВА ГАДЫ, І АДЗІНАЯ НАДЗЕЯ ЗЯМЛЯН БУДЗЕ ЗНАХОДЗІЦЦА Ў РУКАХ ІНШЫХ ВОРАГАЎ КРЭНГА.


ІНШЫЯ ВОРАГІ?
ТАК...


...НАВАТ У ВЫГЛЯДЗЕ ЧЭТА АЛЕНА, Я БАРОЎСЯ СУПРАЦЬ ЛОБНЫХ ПЛАНАЎ КРЭНГА СПОСАБАМІ, ЯКІЯ НЕЛЬГА НАЗВАЦЬ БЛАГАРОДНЫМІ. АЛЕ Ў ТОЙ ЖА ЧАС АБСАЛЮТНА НЕАБХОДНЫМІ.
СУМНА, КАЛІ МЫ ПРАЙГРАЕМ ВАЙНУ. ТОЛЬКІ ЧАС ПАКАЖА, ЦІ БЫЛІ МАЕ НАМАГАННІ ДАСТАТКОВЫМІ, КАБ...


«...РАТАВАЦЬ ВАШУ ЗЯМЛЮ».
Г-ГЭТА ТУТ. ТУТ ЗАХОЎВАЮЦЬ ТУЮ ЗЯЛЁНУЮ ШТУКОВІНУ, У...
СЦІХНІ І АДЧЫНЯЙ.

BWEEP

SLLKK



«ЛЁЗЫ ТУТ БЕС-КАРЫСНЫЯ, ГЭТА ВАР'ЯЦТВА...»

«...НАШЫЯ ШАНСЫ ПЕРАЖЫЦЬ ГЭТА НАСТУПЛЕННЕ – АДЗІН НА МІЛЬЁН».

НЕ ТОЕ, КАБ НАС ГЭТА КАЛІ-НЕБУДЗЬ **СПЫНЯЛА**. КАМУ ХОЧАЦЦА ЖЫЦЬ АДВЕЧНА, ТАК?

АГОНЬ!

BA-DOOM


ЯКОГА Д'ЯБЛА?!


КАПІТАН ТРААГ, РАПАРТ!
АТРЫМЛІВАЮ, ГЕНЕРАЛ.
СЯРЖАНТ ГРАНІТАР, ШТО ГЭТА БЫЛА ЗА МІТУСНЯ?


ВІДАЦЬ, ЯНЫ ЗБІРАЮЦЦА КІНУЦЬ НА НАС УСЕ СВАЕ СІЛЫ, КАБ ПАСПРАБАВАЦЬ ВЯРНУЦЬ КАРАЛЯ І КАРАЛЕВУ.


ІДЫЁТЫ! ЯНЫ АСМЕЛІЛІСЯ ДАЦЬ МНЕ БОЙ, ЗАМЕСТ ТАГО, КАБ ВЯРНУЦЬ НЯШЧАСНАГА РОБАТА?


ГРАНІТАР, ГЭТА КРЭНГ! Я ПАТРАБУЮ, КАБ ВЫ РАЗВЯРНУЛІ ПОЎНАМАШТАБНУЮ КОНТРАТАКУ СУПРАЦЬ ГЭТЫХ ДУРНЯЎ! ПАЛОННЫХ НЕ БРАЦЬ, ЗРАЗУМЕЛІ? РАСПЛЮШЧЫЦЕ ІХ, СПАЛІЦЕ...


...ЗАБЕЙЦЕ ЎСІХ!
ЁСЦЬ, ГЕНЕРАЛ.
ВЫ ЯГО ЧУЛІ, ХЛОПЦЫ...


BWOOM
...АГОНЬ У АДКАЗ!


WHOOM
МАТКА БОСКА!


НІЧОГА БОСКАГА Ў ГЭТЫМ НЯМА, СЯБАР. І НАШ ГАМОН, КАЛІ ЗАСТАНЕМСЯ ТУТ.
НУ ЎСЁ, НЕЙТРАНА, ЗА КАРАЛЯ І КАРАЛЕВУ...


...У АТАКУ!


БІЦЕ ІХ!


«А ВОСЬ І СІГНАЛ ДЛЯ НАС...»


...ЧАС ПАЧЫНАЦЬ ШОЎ.
І, ВАША ВЫСАКАРОДНАСЦЬ, НЕ РЫЗЫКУЙЦЕ ЗАЛІШНЕ. ПРАШУ.
АДПРАЦУЮ НА ЎСЮ МОЦ, КАМАНДЗІР.


ПРОСТА ТРЫМАЙЦЕСЯ БЛІЖЭЙ ДА МЯНЕ, ПРЫНЦЭСА, Я ЗДЗЯЙСНЯЎ ТАКОЕ МІЛЬЁНЫ РАЗОЎ.
ДЗЯКУЮ, МІКЕЛЯНЖЭЛА. ПАСПРАБУЮ.


«...УЖО ПОЗНА АДСТУПАЦЬ»,












МММФ!

ЦЯПЕР УСЁ ЗАНАДТА РЭАЛЬНА.
ТАК...





